# Самапомач Гаспадарства

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 19 (72).
Год VI.
Вільня.
25.XI.1937 г.

РЭДАКЦЫЯ:
Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ
Вільня, Завальная № 1.


## C. O. — S.

Прыклад заразьлівы. Злосна сьмяяўся блізу цэлы сьвет, калі бальшавікі пачыналі сваю першую пяцігодку. А сягоньня — па ўсім сьвеце сталіся моднымі чатыры—пяці—дзесяцігодкі. Называюць іх толькі найчасьцей „пляновымі“ гаспадаркамі. Амэрыка паміж інш. „выплянавала“ гэтак нячуваныя дагэтуль водныя запоры, каб сабраную сілу выкарыстаць для здабыцьця сілы электрычнай. Саветы раз-за-разам дзівуюць сьвет рознымі каналамі: у маі м-цы сёл. адчынілі новы 128 кілёмэтравы канал, які злучыў р. Волгу з р. Масквой, пасьля чаго горад Масква меўся стацца ўнутраным морскім портам, у які прыяжджалі-б акіянскія караблі. Польшч у некалькі год выбудавала на пустым узбярэжжы вялікі новачасны морскі порт Гдыню, а цяпер снуе пляны аб разбудаваньні С. О. — S. (Centralny Okręg Przemysłowy — Sandomierz) — Цэнтральнага Прамысловага Вокругу — Сандомір. Аб гэтым С.О.—S. мы тут і затрымаемся крыху даўжэй, бо справа гэта ў пэўнай меры датыча й нашых, беларусамі заселеных, земляў у Польшчы.

Скуль узялася думка С.О.-S.?

Думка гэта ў аснове сваей ведамая была старой яшчэ незалежнай Польшчы, і аджыла колькі год таму назад, наўперад на тое, каб выкарыстаць безработныя рукі і каб у самым цэнтры дзяржавы пабудаваць прамысловы асяродак, які працаваў-бы, як кажуць ягоныя тварцы, дзеля абароны краю.

Сам абшар С. О. — S. гэта да сягоньня йшчэ бедная малазямельная краіна. Гарадоў там мала, а гарадзкога жыхарства ёсьць толькі 17 працэнтаў. Думку разбудаваньня гэтае краіны ў С. О. — S. высунулі ўрадавыя кругі з міністрам Квяткоўскім на чале. Гэтыя людзі правялі сваю думку ў дзяржаўны бюджэт, дастаючы стуль на яе з падатковых грошаў вялізарныя сумы. Да сягоньня ўжо вялікая часьць гэтых грошаў пушчана на разбудаваньне сеткі чыгунак і бітых дарог, на выпраўку дна рэкаў (Віслы), каб вадою прывозіць каменны вугаль, на залажэньне трубаў, якімі мае дадавозіцца зямны газ (як замена вугля) і г. д. і г. д. Сырэц да перарабкі ў новапабудаваных фабрыках (наўперад усякія руды) мае знайсьціся на месцы і яго там ужо шукаюць.

Гэтак запраектаваны С.О.—S., паводле думкі ягоных арганізатараў, мае даць працу наўперад людзём мясцовым, а з часам мае ўсысаць у сябе надбытак працоўных рук і з іншых ваколіц краю. Акрамя таго новасарганізаваны прамысловы цэнтр мае быць добрым рынкам збыту прадуктаў земляробскіх, што так-жа не малое мела-б сягоньня значэньне.

Гэта ў грубой прыблізнасьці тыя надзеі, якія сабе й іншым абяцаюць арганізатары С.О.—S. Ці гэтыя надзеі збудуцца хутка і ці збудуцца калі наагул — гэта іншая рэч. Важнейшай для нас тут справай было-б адказаць на пытаньне, што можа прынесьці С. О. — S. беларускаму сялянству ў Польшчы, бо й ягоныя залатоўкі з падаткаў паплылі і далей паплывуць на арганізаваньне С.О.—S.

Які-б ні быў характар С.О.-S., ён так уложаны, каб у першую чаргу служыў інтарэсам польскага народу. Ды і то на пачатак з найбліжэйшых толькі ваколіц. Некваліфікаваны беларускі работнік калі й знайшоў-бы ў ім заняцьце, дык хіба толькі тады, калі наагул зьнікне змора безработцьця. Ня менш рызыкоўна глядзець на С.О.—S., як на рынак збыту для прадуктаў земляробскай вытворчасьці з нашых земляў. На перашкодзе гэтаму стаіць блізу 800 кілёмэтравы прастор, які дзеліць нас ад С.О.—S. і агульны стан нашых гаспадарак. Трудна нам пры гэткіх варунках вытрымаць конкурэнцыю сумежных з С.О.—S. земляробскіх раёнаў Польшчы, як незраўнана сільнейшых і блізкіх.

Што-ж яшчэ мог-бы наш селянін спадзявацца ад С.О.-S.? Можа мог-бы С.О.-S. перарабляць нашыя сырцы, як лес, лён, воўна, скуры і г. д. Можа! Але разам з гэтым валяцца ў забыцьцё ўсе праекты розных „апякунчых“ лігаў, саюзаў, таварыстваў, якія меліся

## Жыцьцё сялян у краёх дыктатарскіх

Апіраючыся на кніжку савецкага вучонага Маслова, часапіс польскіх сялян „Piast" (№ 44) піша між іншым гэтак:

Па дваццацёх гадох „бальшавіцкага раю" сям'я селяніна ў Саветах за адзін дзень працы ад 4 гадз. рана да 8 увечары атрымоўвуе па 20 капеек, 2 клг. збожа, 2 клг. сена і 2 клг. саломы й мякіны і колькі кілёграмаў пладовых адпадкаў. Цэлагодні заработак селяніна ў калгасе — 82 рублі — ідзе на дробныя закупы, як соль, газа (карасіна), серчыкі. Сена, салому й мякіну скормліваюць каровамі. На пражыцьцё самой сям'і астаецца збожа... Мяса наагул ніколі не ядуць, сала, цукру й расьлінных тлушчаў выпадае менш як 3 грамы на асобу ў дзень. Нічога дзіўнага, што збожа зьядаюць ужо за першыя 6—8 месяцаў, пасьля чаго пачынаецца галадоўка. Аснаўны корм людзей дарослых гэта бульба, капуста й буракі і то не заўсяды да сыта.

У другой дыктатарскай дзяржаве, у Нямеччыне, хоць дыктатура пачалася значна пазьней, то аднак ужо дайшло да таго, што ўласьнік ужо двугэктарнай гаспадаркі ня мае права без дазволу ўладаў закалоць парасё, прадаць карову, паставіць хлеў. Улады такжа вызначаюць селяніну цэны на землеробскія прадукты, а так-жа колькі такі селянін можа гэтых прадуктаў прадаць, а колькі затрымаць для сябе. У Швайцарскай прэсе шмат ёсьць вестак аб сялянскіх забурэньнях у Нямеччыне. Забурэньняў гэтых ня трэба браць за надта паважна: усё гэта хутчэй ёсьць доказам зьнецярплівеньня. Селянін нямецкі ўспамінае сягоньня часы кайзэра і „гнілой Вэймарскай рэспублікі" як часы свабоды...

Аб тым, як жывецца сялянам у Італіі, „Самапомач" ужо пісала.

Дадаваць штосьці да гэтага было б хіба лішнім. С. В.

будаваць у нас сетку чыгунак і іншых шляхоў спалучэньня, якімі вывозіліся-б гатовыя прадукты, выробленыя ў пабудаваных на месцы фабрыках, у каторых да таго знайшоў-бы працу той надбытак мясцовых працоўных рук.

Як бачым, разбудаваньне С.О.—S. ня сюліць нашаму беларускаму селяніну тых карысьцяў, якія з гэтага будуць мець суседнія з С.О.—S. сяляне польскія. Чаму так ёсьць? — на гэтым месцы разьбіраць ня будзем. Зазначым толькі, што пакуль ня скончыцца разбудова С.О.—S., датуль цяжка спадзявацца на нейкія паважнейшыя прадпрыемствы на землях нашых з тае простае прычыны, што прыватны капітал згэтуль уцякае, а дзяржава абслужыць некалькі мясцоў за раз, пры найлепшай нават волі, ня ў сілах.

*КАРЫСТАЙЦЕ З ПРАДОЎЖАНАГА ТЭРМІНУ!*

## „Самапомач" за дарма!

*Хочучы памагчы нашай беларускай перадусім моладзі, якая жадала-б паглыбіць свае пазнаньні з землеробскай гаспадаркі і ня мае на гэта адпаведнай літаратуры, рэдакцыя „Самапомачы" пастанавіла ДАРМА раздаць частку гадавікоў „Самапомачы" за мінулыя гады паміж тых сваіх сталых падпішчыкаў, якія прышлюць нам адну залатоўку на пакрыцьцё коштаў перасылкі.*

*А знача, хто да 15.XII сёл. аплаціць падпіску за сёлетні 1937 год і прышле акрамя таго залатоўку на перасылку, той акрамя сёлетняга часапісу дарма атрымае йшчэ два гадавікі „Самапомачы" за мінулыя гады. Да рассылкі маем гадавікі за гады: 1933, 1934, 1935 і 1936. Пры перасылцы грошаў трэба паказаць з якіх двух гадоў хто хоча атрымаць гадавікі. Хто цэлую сёлетнюю падпіску аплаціў, а хоча атрымаць гадавікі з мінулых гадоў, той павінен прыслаць толькі адну залатоўку, з азначэньнем „на гадавікі".*

*Дык карыстайце з рэдкай аказіі, якая больш не паўторыцца. Паведамце аб гэтым сваіх суседзяў і знаёмых. Ведайце, што кожны гадавік гэта самастойная гаспадарская чытанка: знойдзеце там цікавыя і карысныя рады аб гаспадарцы палявой, сенажатнай, гадаўлянай, малачарскай, вэтэрынарнай помачы, аб хатняй гаспадарцы, жаноцкай і г. д. — Карыстайце!*

*Выдавецтва «Самапомачы».*
*Вільня, Завальная 1.*

## U krainie tysiač vazioraŭ [2]

(*Jak žyvuć sialanie ŭ Finlandyi*).

Abšar hruntu finskich haspadarak pakazvaje, što heta kraina drobna-ziemlarobskaja. I adnak, vysoki rovień svaje sobskaje kultury kožnuju takuju haspadarku pazvoliŭ pastavić tak vysaka, što i najdrabniejšy haspadar biady nie adčuvaje. Surovy paŭnočny klimat nie pazvalaje tut na šyrokuju ruku zajmacca palavodztvam. Jašče prad čatyrma hadami 70 prac. patrebnaje ŭ krai pšanicy treba było pryvieźci z-zahranicy: siahońnia finy pryvoziać z-zahranicy ŭžo tolki 30 prac. pšanicy i 10 prac. žyta! Usiu reštu pakryvajuć z pradukcyi krajovaj. Hetki ŭzrost krajovaj pradukcyi raślinnaj staŭsia mahčymym tolki dziakujučy tamu, što pracavityja finy patrapili vykarystać najmienšyja kusočki ziamli, navat takija, jakija ŭ inšym miescy lažali-b jak bieskarysny niaŭžytak. Peŭna-ž, što kab hetkuju hlebu zrabić uradžajnaj, treba było šmat ułažyć u jaje pracy i hrošaŭ. Druhaja reč, heta razumna viedzienyja proby z hadavańniem novych sortaŭ usiakaha nasieńnia, jakoje navat u surovych klimatyčnych varunkach vyznačajecca vialikaj płodnaściu, adpornaściu na chvaroby i vymahaje karotkaha času na ŭzrost i daśpiavańnie.

Žyviołahadoŭla ŭ Finlandyi tak-ža staić vielmi vysaka. Davoli zaznačyć, što pradukty žyviołahadoŭli, jak masła, syr, jajki, skury i h. d. nia tolki pakryvajuć usio zapatrebavańnie kraju, ale 30 prac. (treciaja čaść) hetych praduktaŭ vyvozicca zahranicu, pierad usim u Anhliju i Niamieččynu. U 1935 h. napr. było vyviezieno 10.2 mil. klh. masła i 4.2 mil. klh syru. Jak ceniać finy svaju pradukcyju žyviołahadoŭli, vidać choć-by z taho, što jšče ŭ 1913 h. jany dabravolna zaviali ŭ siabie vostry kantrol usich vyvoznych praduktaŭ. Ad henaha času zahranicu traplajuć tolki pradukty najlepšyja. Tamu i zahranica finskich tavaraŭ što raz bolš šukaje i dobra za ich płacić.

Specyjalnaściaj Finlandyi ŭ halinie žyviołahadoŭli jość hadoŭla paŭnočnych aleniaŭ (reniferaŭ) i žviarkoŭ na futry. Renifery hadujucca tolki ŭ dźviuch paŭnočnych pravincyjach. Naličajuć ich tam 200.000 štuk. U hod zabivajuć kala 40.000 štuk, z čaho atrymoŭvujuć 1.5 (paŭtara) mil. klh. miasa i aprača taho darahija na ŭsim śviecie skury, sposab vyrabu jakich finskija sialanie ŭspomnienych pravincyj Laponija i Petsamo trymajuć u vialikim sakrecie. — Futranyja žviarki hadujucca ŭ asobnych fermach, jakich naličajuć da 300.

Najbolš dachodnym adnak zaniaćciem žycharoŭ Finlandyi jość haspadarka lasnaja, bo lesam pakryta bolš jak try čećvierci ahulnaha abšaru Finlandyi. Les nia tolki vyvozicca z Finlandyi zahranicu, ale i ŭ kraju paŭstali vialikija fabryki (celulozy, papiery i h. d.),

# Што, як і калі рабіць?

*(Землябробская тэхніка).*

## На збажовых рынках

Яшчэ прад сёлетнім жнівом і па жніве чуваць былі галасы аб неўраджаі. Нядаўна апублікаваныя весткі Статыстычнага Ураду паказваюць, што неўраджай быў значна меншы. Не аднаго цікавіць, чаму цэны на збожа, хоць ураджай на яго быў меншы, усё-ж ня высокія і нават трудна заручыцца, што значна направяцца вясной. Каб зарыентавацца ў гэтых справах, трэба хоць коратка глянуць, як гэта справа прадстаўляецца ня толькі ў краю, але заграніцай.

Як ведама, крызыс у землеробстве паўстаў з таго, што за шмат збожа сеялася ў такіх заморскіх краёх, якія маюць вялікія вольныя прасторы, як Амэрыка, Аўстралія і г. д. І адначасна з гэтым спажыцьцё таго-ж збожа ня толькі адпаведна не павялічылася, але наадварот — абніжылася, бо сьцьверджана, што з узрастаючым дабрабытам людзі ад стравы мучной пераходзяць да мясной. У шмат краёх набраліся гэтак вялікія запасы збожа, якога ня можна было прадаць. І гэтыя запасы, якія ў кожную хвіліну маглі быць выкіненыя на рынак, абніжылі цану збожа.

Гэтак было да 1934 году. У гэтым годзе ў Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі здарыўся неўраджай, які паўтарыўся ў 1935 і 1936г. Не апраўдалі сябе спадзяваныя ўраджаі і ў Аргентыне. Прадукцыя збожа так абніжылася, што яго не хапала на бягучыя патрэбы. Пайшлі тады ў ход запасы з мінулых гадоў, якія ў жніўні м-цы сёл. таксама вычэрпаліся. Гэта было прычынай, чаму цэны на збожа папраўіліся ва ўсіх краёх.

У 1937 годзе палажэньне радыкальна зьмянілася. Па ўсім сьвеце значна пашырыліся абсевы пшаніцы і таму ўраджай яе перавышыў ураджай з папярэдняга 1936 г. блізу на 135 мільёнаў квінталяў*). Землябробы скрозь рахавалі, што запатрэбаваньне на пшаніцу будзе большае, бо некаторыя вялікадзяржавы пачалі сільна зброіцца, уключаючы ў ваенныя запасы й збожа, якое ёсьць канешнае на прахарчаваньне вялікай арміі. Тымчасам з розных прычын запасы збожа для заапровіянтаваньня арміі рабіліся значна меншыя ад спадзяваных. Дзеля гэтага запатрэбаваньне на збажовым рынку ўтрымалася на роўні папярэднім і прыходзіцца рахавацца з тым, што ўсяго сёлетняга ўраджаю выпрадаць ня ўдасца. Гэта знача, што ў будучым годзе ўзноў патворацца запасы, якія нанова будуць зьбіваць цэны ўніз. Ужо сягоньня цэны гэтыя ў Зл. Штатах Паўн. Амэрыкі апалі ніжэй коштаў сабевартасьці, а з часам гэта абніжка пойдзе хіба яшчэ ніжэй.

Як бачым, палажэньне на міжнародных збажовых рынках наагул прадстаўляецца непамысна, а калі абшар абсеву збожа ня будзе аграніччаны, дык магчыма, што гэты стан рэчаў пагоршыцца йшчэ больш.

Усё гэта й на гаспадарцы нашай: і ў нас хоць сёлетнія ўраджаі былі меншыя ад леташніх, то цэны аднак ня высокія. Купец, які збожа вывозіць, на краёвым рынку плаціць за збожа толькі гэтулькі, каб пасьля магчы з пэўным зыскам прадаць тавар на рынку заграніччным. А дзеля таго што цэны на гэтым рынку нізкія, дык трудна вымагаць, каб цэны гэтыя ў нас былі высокія. Уплыў заграніччных рынкаў на нашыя ёсьць тут выразны.

Акрамя таго ёсьць яшчэ прычыны чыста мясцовыя, якія таксама абніжаюць цэны. Як ведама, з-за нястачы пашы сяляне пачалі прадаваць жывёлу. Дзеля гэтага й тая часьць збожа, якая нормальна магла-б быць скормленай у гаспадарцы, таксама йдзе на рынак і зьбівае цану. Зьменшае гэта з аднае стараны спажыцьцё збожа ў гаспадарцы, а з другой — павялічвае продаж гэтага-ж збожа на рынках. Акрамя таго мясцамі добра ўрадзіла сёлета бульба якою можна замяніць часьць збожа, чым яшчэ больш абніжаецца запатрэбаваньне збожа ў гаспадарцы. Іншымі словамі кажучы — пазволіць гэта землябробам збожа, заашчаджанае на спажыцьцю, празначыць на продаж. Гэта ўсё знача, што землябробы ў нас і сёлета змогуць кінуць на рынак ня менш збожа, як летась; а ў кожным разе места недастатку збожа не адчуе.

Дзеля таго што продаж збожа на рынкі ў нас здаецца будзе разложана роўнамерна на цэлы год, можна спадзявацца, што цана на вясну падыймецца. Але ня шмат.

Гэтак наагул прадстаўляецца справа на збажовых рынках у нас і заграніцай. Не дае гэта падставаў

*) Квінталь мае 100 кілёграмаў, або 6 пудоў і 10 фунтаў.

---

dzie lasny matarjał vykarystoŭvujecca jak niezamienny syrec. Jak važnaj składovaj častkaj narodnaje haspadarki Finlandyi jość haspadarka lasnaja, vidać choć-by z taho, što mižnarodnaja Eŭropejskaja konvencyja lasnych eksportaŭ ETEC, da jakoj naležać usie krainy vyvoziačyja lasny matarjał, pryznaje Finlandyi štohod najbolšyja vyvoznyja kontyngienty. — Pry ŭsim hetym cikava adnak zaznačyć, što lasnaja haspadarka ŭ Finlandyi da siahońnia jšče viadziecca sposabam čysta naturalnym: les tolki siačecca, ale ani zasadžvajecca, ani zasiejvajecca. Apošnim časam adnak, kali pačali vyrubyvać asabliva šmat lesu, dyk i tut haspadarnyja finy ŭžo zahavaryli ab tym, što treba lasnuju haspadarku vieści z abrachunkam: u takim vypadku spadziajucca, što zapasy tavaru nia źmienšacca, navat tady, kali ŭ hod buduć vysiakać lesu dvojčy hetulki, kolki vysiakajuć siahońnia.

Što adnak asabliva kidajecca ŭ vočy ŭ finskaha sielanina, heta jahony dabrabyt i kultura, niezaležna ad taho, ci heta sielanin drobny ci bujniejšy. Davoli skazać, što ŭ Finlandyi blizu niama zusim niahramatnych, usiudy čystata i paradak, nia tolki harady, ale miastečki, bolšašć siołaŭ i paasobnych chutaroŭ majuć elektryčnaje aśviatleńnie i elektryčny pahon (siłu), školnictva lohka dastupnaje nia tolki pačatkavaje, ale siaredniaje j najvyšejšaje. Da hetaje zamožnaści Finy dajšli dziakujučy šyraka raźvitaj u kraju kooperacyi. Heta halina finskaha žyćcia zasłuhoŭvaje na toje, kab ab joj pahavaryć asobnym razam. Tut-ža tolki adciemim suchija ličby. I tak u 1935 h. samych tolki spažyvieckich kooperatyvaŭ u Finlandyi było zarejestravana 7.251 (čynnych 5.460). Małačarskich kooperatyvaŭ u hetym samym časie było 696. Usie kooperatyvy zarhanizavany ŭ 10 handlovych kooperatyŭnych centralach. Jak hetyja centrali pracujuć, pakazvaje prykład choć-by centrala małačarskaja „*Valio*“, jakaja prapuściła praz svaje ruki 93 prac. usiaho masła i 57 prac. usiaho syru vyvoźanaha z Finlandyi zahranicu, adna tolki kooperatyva spažyvieckaja „*Elanto*“ ŭ Helsinkach maje svaje sobskija fabryki, tavarnyja damy, bojni (392), kramy, u jakich pracuje kala 3.000 rabotnikaŭ. Viadzie jana pry hetym 15 restaranaŭ. Letaś ža heta kooperatyva pabudavała „kryštałavy pałac“, u jakim znajšli pamiaŝčeńnie: restaran, kramy i zala dla kino na 1.500 asobaŭ. Zrazumiełaja reč, što ŭsio vytračanaje ŭ hetkaj kooperatyvie varočajecca jejnamu-ž siabru-pajščyku.

Na kolki kooperacyja raźvita ŭ Finlandyi, vidać choć-by z taho, što fin Vaino Tanner užo doŭhija hady źjaŭlajecca biazźmiennym staršynioj Mižnarodnaha Kooperatyŭnaha Sajuzu.

Ale ab hetym inšym razam. K.

## Абгаспадараваньне няўжыткаў

У шырокай прыблізнасьці ўзята, кожны дзесяты гэктар у нас гэта няўжыткі: балаты, зыбнягі, імшэньнікі, сыпучыя пяскі і г. д. Дзеля нястачы прыгодных да абрабляньня грунтоў — з аднае стараны і ўзросту ліку насельніцтва — з другой, вочы нашы што раз больш зьвяртаюцца ў бок гэтых няўжыткаў. Бо досьледы краёвыя і заграпічныя ясна паказваюць, што часьць гэтых „няўжыткаў“ можа быць выкарыстана ці то на звычайнае ворнае поле, ці на сенажаць і пасьбішча ці ўрэшце на лес або на гаспадарку рыбную. У кожным разе ў шмат выпадках няўжытак можна абгаспадарыць, што земляробу пазваляе мець з гэтага пэўны даход, тады як някранутыя няўжыткі пераважна зьяўляюцца цяжарам. Асабліва пільную ўвагу трэба зьвярнуць на тарфянішчы, бо сцьверджана, што малым ужо коштам можна замяніць іх на зусім добры грунт ворны, на якім можна сеяць і гадаваць большую часьць нашых расьлін, або ў найгоршым выпадку мець на вельмі добрую сенажаць ці пасьбішча. Усялякія грунты падмоклыя, імшэньнікі і г.д., таксама як і тарфянішчы, трэба нада вельмі руховых надзеяў. Натуральна, могуць здарыцца непрадбачаныя выпадкі, якія сытуацыю на збажовых рынках маглі-б да званьня зьмяніць. Але гэта ўжо справы, на якіх трудна нешта будаваць наагул.

ўперад асушыць. Звычайна хапае на гэта адкрытых равоў, якія можна выкапаць звычайным гаспадарскім спосабам. Натуральна, улажэньне пляну асушкі, вызначэньне кірунку равоў, іхнюю шырыню і глыбіню павінен зрабіць чалавек з справай абазнаны (мэліорацыйны тэхнік). Выдатак на гэтага тэхніка і ёсьць адзіным галоўным выдаткам; рэшта выконваецца спосабам гаспадарскім.

Справа няўжыткаў у нас мае йшчэ і тое значэньне, што агульная плошча іх не паменшаецца, а наадварот, у пэўных выпадках яшчэ павялічваецца. Гэткі выпадак здараецца напр. тады, калі гаспадар капае торф на апал, пасьля чаго астаюцца менш ці больш глыбокія ямы, у якіх зьбіраецца дажджавая вада, каторая йшчэ больш падмачвае ўсё тарфянішча. Тымчасам равы гэтыя можна злучыць у адзін ці колькі ставоў, у якіх можна завесьці гаспадарку рыбную дзеля гадоўлі калі ня карпаў, дык прынамся карасёў, якія вельмі нявыбрэдныя.

Глебы пяшчаныя, лішне сухія дзеля абрабляньня іх як поле ворнае, а асабліва пяскі-сухавеі. трэба канешна засадзіць лесам. Да нядаўна лесу было ў нас даволі, але вялікая часьць яго апошнім часам была вынішчана і далей усё высякаецца. Мае гэта благі ўплыў на клімат, выклікаючы між іншым вясной вялікія паводкі (разводзьдзе) і г. д. Трэба дзеля гэтага сухія прасторы засаджваць лесам, прыймаючы пры гэтым пад увагу, што калі пясок сухавей не напаткае на дарозе ніякай перашкоды ў постаці лесу, дык пры сільным ветры можа засыпаць як сенажаць, так і ворнае поле, заменьваючы іх на няўжытак. У Эгіпце, дзе старанна выкарыстоўуецца кожная пядзя зямлі, на гэткае абсаджваньне лесам сыпучых пяскоў і на іхнюю небясьпеку зварочваюць аддаўна вялікую ўвагу. У паўночнай Амэрыцы не агледзіліся як высеклі аграмадныя прасторы лесу. Было гэта прычынай пяшчаных бураў, якія пачалі дакучаць тамашняму земляробскаму жыхарству. Была гэта так-жа адна з прычын леташняга ў Амэрыцы неўраджаю. Толькі апошнім часам грамадзкія і ўрадавыя кругі Паўн. Амэрыкі зьвярнулі большую ўвагу на няшчасьці пяшчаных бураў і пільна абсаджываць дрэвамі лясныя паясы, якія затрымоўуюць пяскі, недапускаючы да засыпаньня ворных абсееных палёў.

Трэба дзеля таго імкнуцца да замены няўжыткаў на гаспадаркі лясныя, рыбныя, ворныя, сенажаці й пасьбішчы, але наўперад не дапускаць, каб абшары няўжыткаў павялічываліся.

З. К.



Інж. Ад. Клімовіч.

## Асновы земляробскай эканомікі.

13)

### Аб гаспадарцы грашмі.

Перш чым замкнуць гэтыя найагульнейшыя асновы земляробскай гаспадаркі, трэба яшчэ кінуць хоць скромны праменьчык сьвятла на пытаньне гаспадаркі грашмі. Ведаць можна з-гары, што шмат для каго гэта справа пакажыцца лішняй, а ў найлепшым выпадку няістотнай. Не адзін скажа „абы грошы, дык гаспадарыць кожны патрапіць“. І ў гэтым найбольшая небясьпека. Што справа гаспадаркі грашмі не такая лёгкая, як каму можа здаецца, відаць хоць-бы з таго, колькі ўласьнікаў вялікіх гаспадарак і ня меншых грашовых сумаў кончылі банкроцтвам. Мелі-ж яны і гаспадарку, і грошы, нараз нават вялікія грошы. І што? Банкроты! Не заўсёды з свае віны, з віны жыцьця „на шырокую руку“, а толькі дзеля найзвычайнейшага няўменьня гаспадарыць грошам. А трэба зразу зазначыць, што хто ня ўмее гаспадарыць грашом, той не патрапіць гаспадарыць і залатоўкай.

Але пашто сягаць да тых як-ні-як, а ня гэтак ужо многалічных, калі кругом ёсьць шмат прыкладаў больш зразумелых, больш непасрэдных. Даволі вярнуцца думкамі дзесяць год таму назад, у часы гэтак званага дабрабыту, 1926—29 г. Здавалася тады, як гэта проста й лёгка можна збагацець! З-за кожнага вугла сюлілі чалавеку пазыкі, заахвочывалі... І колькі-ж пасьля гэтага асталося гаспадарчых трупоў, якія ў гэны час таксама былі поўны веры ў тое, што найважнейшая рэч гэта грошы, усё роўна — свае, ці пазычаныя; абы толькі іх мець.

Грашовая гаспадарка наагул, а тымбольш у земляробстве гэта зьявішча часоў навейшых і нават найнавейшых. Таму істота і заданьне грошаў у гаспадарцы так мала ведамая і таму на гэтым земляроб наш найчасьцей „апарыцца“.

Пераглядзьмо ж найважнейшыя этапы грашовай гаспадаркі ў земляробстве.

Аснаўныя стаўпы земляробскай гаспадаркі: зямля, праца й капітал, як былі раней, так і сягоньня зьяўляюцца асновай. Толькі іхнія ўзаемаадносіны ў працэсе вытворства сталіся іншымі. Зямля сягоньня мусіць выкарыстоўвацца сільней, бо ў параўнаньні з насельніцтвам запас зямлі стала зьменшаецца. Дзеля захаваньня роўнавагі й абоцва астатнія складнікі вытворства, праца й капітал, мусяць так-жа паднімацца вышэй. Калі-ж параўняць чыньнік працы й капіталу, дык і тут выбіваецца патрэба павялічыць чыньнік капіталу ў параўнаньні з павялічаным чыньнікам працы. І тут упіраемся ў самае балючае месца — недастатак у гаспадарцы прадукцыйнага капіталу.

Чалавек, які з дзеда — прадзеда вядзе земляробскую гаспадарку, з гэтым недастаткам спаткаецца радзей, бо ён інстынктоўна адчувае, што можа яму гаспадарка даць. Інакш бывае з тымі, што пры-

## Бульбоўнік як паша

Хоць праўду кажучы позна ўжо аб гэтым казаць, каб з сказанага карыстаць яшчэ сёлета. Але хай сёлетняя навука захаваецца на год наступны.

Пад канец сёлетняга лета, калі ўраджай бульбы быў яшчэ няведамы, а ўраджай усялякай пашы прадстаўляўся блага, земляробы пачалі стасаваць розныя пашы заменныя, якія дагэтуль мала, а часам і зусім ніколі ня ўжываліся. Некаторыя пашы, як напр. крывяная мука, аказаліся сусім добрымі, іншыя-ж значна горшымі, стасаваць якія змушала толькі крайняя бяда. Сярод гэтых апошніх сям-там аказаўся й бульбоўнік.

Мы ня раз ужо зварочвалі ўвагу, што абрываньне лістоў, а тым больш цэлых каліваў падчас узросту пашных асабліва расьлін вельмі шкодна ўплывае на рост гэтых-жа расьлін. Лісты расьлін гэта жалудак, які травіць увесь корм, каторы расьліна прыймае сваім карэньнем з зямлі. Толькі пасьля пераробкі ў лістох корм гэты становіцца матарыялам, з якога паўстаюць новыя лісты, карэньне, насеньне і г. д. Калі-ж з расьліны абдзерці лісьце наперад, дык яна перастае разьвівацца ў узросьце датуль, пакуль ня вырастуць новыя лісты. Дзеля гэтага абрываць лісты з расьлін можна толькі незадоўга прад сабіраньнем самае расьліны з поля. Асабліва гэта важна для расьлін акопных (бульба, бурак), якія растуць аж да самага блізу збору.

Тымчасам сёлета ў некаторых гаспадарках пачалі абрываць лісты з бульбоўніку ўжо ў м-цы ліпні, блізу за два месяцы перад капаньнем. Ня трэба даказываць, што ў гэткіх гаспадарках ураджай на бульбу быў значна меншы, чымся мог-бы быць, калі-б бульбоўнік быў захаваны цэлы. У ліпні м-цы бульба толькі й расьце йшчэ цэлай сілай. Калі-ж у гэту пару абарваць лісты, дык расьліна, замест гнаць рост самых бульбінаў, павінна спачатку выгадаваць нанова лісты. Пакуль гэта станецца, пройдзе надарма ня мала часу, каторага расьліна пасьля ўжо ніяк не дагоне.

Да ўсяго гэтага трэба зьвярнуць увагу, што сьвежы бульбоўнік ёсьць пашай неасаблівай, якую жывёла есьць толькі з бяды. Ужываецца такі бульбоўнік пераважна толькі для корму скаціны і то малымі толькі порцыямі, бо ў бульбоўніку ёсьць шкодная для здароўя складовая сучастка *соляніна.* Практычныя гаспадары радзяць не даваць скаціне бульбоўніку на зялёна, а толькі або высушаны на сена, або йшчэ лепш — у форме кішонкі. Сушыць бульбоўнік трэба канешна на казлох ці на пярэплатах, бо сам бульбоўнік бывае мясісты, мае ў сабе шмат вады, якую выпараваць звычайным сушэньнем было-б вельмі цяжка. Калі-ж хто захацеў-бы з бульбоўніку прыгатаўляць кішонку, дык няхай такая кішонка будзе ня з самага толькі бульбоўніку, апе ў перамешцы з пашамі іншымі: жывёла тады гэткую кішонку смачней зьядае.

У будучыні, калі-б здарылася патрэба карміць жывёлу бульбоўнікам, дык жаць яго трэба прад самым засыханьнем на пні. Бульбоўнік, які ўжо засох на пні, або які заражаны хваробамі, паплямлены, падгніўшы і г. д., на пашу ня прыгодны. З гэтага вынікае, што бульбоўнік павінен быць цалкам зялёны і сьвежы. З другой стараны, каб раньняе скашэньне бульбоўніка не затрымала ўзросту бульбы, трэба касіць яго не раней як за два тыдні прад капаньнем бульбы. Дзеля таго што з сушэньнем бульбоўніку бывае шмат клопату, найлепш рабіць з яго, у перамешку з іншай зялёнай пашай, зялёную сечку і квасіць. Заквашанага гэтак бульбоўніку можна даваць ня больш як 15—20 клг. на дзень і штуку.

З усяго гэтага, ясна, што бульбоўнік дае пашу горшага гатунку. Жнучы ці косячы бульбоўнік на пашу, трэба паступаць вельмі асьцярожна: ня браць яго за рана, каб гэтак не ўцярпеў ураджай бульбы, і ня браць за позна, бо з гэткага бульбоўніка ня будзе ўжо ніякай пашнай карысьці.

*Паз.*



ходзяць на гаспадарку, ведаючы аб ей гэтулькі, колькі можна даведацца з розных падарожных апавяданьняў, або гледзячы з цягніковага акна. Гэткія людзі — і ня толькі гэткія — найчасьцей увесь запас гатоўкі ўмяшчаюць у куплю самае гаспадаркі забываючыся (ці недацэньваючы), што капітал уложаны ў зямлю сам-сабой ёсьць мёртвым, ня то што няздольным даваць які-небудзь даход (працэнт), але часта нават зьядае самога сябе. Каб гэты капітал зямлі аплодатварыць, каб яго змусіць „радзіць“, яму канешна трэба дадаць капітал прадукцыйны — капітал жывога й мёртвага інвэнтара і капітал абаротны. Калі гэтага не зрабіць, дык найлепшае пне будзе ляжаць дзірваном ці — у лепшым выпадку — зарасьце травой і хмызьняком.

Да справы патрэбы прадукцыйнага капіталу йшчэ вернемся пры канцы. Цяпер-жа колькі слоў аб тым, якая роля грошаў у гаспадарцы земляробскай і якая іх роля ў іншых галінах гаспадарчага жыцьця, напр. у гандлі і промысьле. Каб усьведаміць сабе гэту розьніцу, трэба зразу сказаць, што грош грошу ня роўны. Наша беларуская народная прыказка добра гэта выражае, кажучы, што „грош ня той што ляжыць, а той што бяжыць, той дае жыць“. Іншымі словамі грош тады толькі карысны, калі ён знаходзіцца ў абароце, калі „бяжыць“. Як-жа гэты „бег“ граша прадстаўляецца ў земляробстве і як напр. у гандлі?

Земляроб раз у год жнець, раз малоціць, а знача капітал уложаны ў польную гаспадарку варочаецца толькі раз у год. У гадаўлянай гаспадарцы гэта справа йшчэ павальнейшая, бо што-ж вырасьце за адзін год? Хіба трус (кролік) ці курыца. А знача і ў жывёлагалоўлі абарот уложанага капіталу адбываецца вельмі памалу. Вынятак толькі можа быць у гаспадарцы, дзе прадаецца малако і малочныя прадукты.

Інакш зусім справа прадстаўляецца ў гандляра ці ў такога напр. пекара або мясьніка: у іх пушчаны ў абарот грош вяртаецца за тыдзень, найдалей за два; ці інакш кажучы ён за год абернецца 26, а нават і 52 разы, за кожным разам прыносячы свайму гаспадару пэўны працэнт. Зразумелай дзеля таго павінна быць справай, што адно значэньне мае той самы грош у руках земляроба і зусім другое — у руках гандляра ці прамыслоўца. А з гэтага ясна, што земляробу не па сілах браць пазыкі на тых варунках, на якіх бярэ іх такі гандляр ці прамысловец. А ўжо ў ніякім выпадку ня можа земляроб браць пазыку на вэксаль, які немцы земляробы па заслузе называюць *першым гвоздзем у гаспадарскі гроб.* Вэксаль у земляробстве гэта згуба!

Урэшце абзацанае слова, што да вышыні прадукцыйнага капіталу. Ня можа быць мовы аб нейкім на гэта рэцэпце, бо ня роўна інтэнсыўна ўсюды гаспадараць. Але як агульнае правіла мусіць быць, што купіўшы патрэбны інвэнтар жывы і мёртвы, гаспадар-земляроб павінен мець яшчэ гэтулькі гатоўкі, каб мог у працягу цэлага году гаспадарыць „з кішаня“. Выдаткі гэтыя можна адпаведна зьменшыць там, дзе ёсьць у працягу году даплыў гатоўкі за запэўненую прадажу напр. малочных прадуктаў ці якой штукі жывёлы на мяса.

# Пазычкі на выкормліваньне жывёлы.

Цэны на больщых рынках апошнім часам так устанавіліся, што за скаціну худую плацілі ў два, а нават у чатыры разы менш, чым за скаціну належна выкармленую. Прычына гэтага ў тым, што продаж худых штук на рынак ёсьць вельмі вялікая, а выкармленых — малая. З-за нястачы пашы селянін у большасьці выпадкаў ня можа выкарміць свае жывёлы на клуста, а нястача гатоўкі не пазваляе дакупіць пашу за грошы.

Пры гэткіх варунках абегла кругом вестка, што ўрад урухоміў пазычкі на закуп пашы для корм нае жывёлы. Нічога тымчасам ня ведама аб фармальнасьцях, якія трэба выканаць, каб з гэтых пазычак скарыстаць. Застанавіцца тут трэба аднак над пытаньнем прынцыповым —ці такую пазычку аплаціцца браць, а гэтым самым ці варта гэтай пазычкі старацца.

Выясьнім гэта на прыкладзе. Дапусьцім, што маем худую штуку вялікай скаціны, якая важа 350 кілёграмаў. Дзеля таго, што цэны на цэнтральных рынках на худую скаціну сягоньня трымаюцца паміж 0,25 і 0,55 зл., у сярэднім 35 зл. за 100 кілё жывой вагі, дык за штуку гэткую атрымалі б каля 122 з паловай злотаў. Калі за гатоўку атрыманую з успомненай пазыкі купіць пашу і штуку гэту выкарміць, дык вага ейная падыймецца на нейкія 20 прац., гэта знача будзе такая штука важыць каля 420 кілё. Пры перагоне ці перавозе на рынак, выкармленая штука траціць на вазе. Хай гэта страта выносіць 30 клг. Цана за выкармленую жывёлу выносіць у сярэднім 0,75 зл. за кілёграм жывой вагі. Тады за штуку, якая важа 390 клг. (па адлічэньні 30 клг. на страту пры перавозе), атрымаем 292 зл. 50 гр., г. зн. на 170 зл. больш, чымся за гэту самую штуку някормленую, худую.

Гэтыя лічбы трэба разумець як прыклад. Ня знача гэта, што ў кожным выпадку так заўсяды будзе, бо гэта залежа шмат ад якіх варункаў. Зыск гэты можа быць большы, можа быць і меншы. Земляроб павінен дакладна аблічыць, ці такое выкормліваньне яму аплаціцца ці не.

Каб усьцерагчыся магчымых стратаў, трэба ўзяць пад увагу гэткія акалічнасьці. Асновай выкормліваньня павінна быць собская танная бульба. Хто бульбы ня мае і мусіў-бы купляць яе за гатоўку, таму выкормліваньне надта не аплаціласяб. За гатоўку трэба купляць концэнтраваную фабрычную пашу бялковую, у выняткавых выпадках можа крыху сена ці канюшыны. Далей, выкормліваньне аднэй штукі не павінна даўжэй трываць як тры месяцы. Гэта знача да выкармліваньня трэба браць штукі не лішне старыя, лепш малодшыя, бо гэткія лепш выкарыстоўвуюць пашу і лёгка выкормліваюцца. Штуку старую, заморануюю на худую выкарміць нават і за 6 месяцаў, а гэта ўжо зусім не аплачвалася-б. Далей, жывёла прызначаная на выкормліваньне павінна быць зусім здаровай, бо хворая, асабліва на сухоты, наагул ня дасца выкарміць. Земляроб ня толькі на гэтым нічога ня выйграў-бы, але напэўна страціў-бы, бо акрамя гною нічога ад такой штукі ня меў-бы.

Трэба так-жа зьвярнуць увагу, што гной ад жывёлы кормленай высокавартаснай пашай бывае без параўнаньня вышэйшай якасьці, чым ад жывёлы трыманай на саломе і бульбяных лупінах. Ня трэба даказваць, што поле пагноенае лепшым гноем дае больщы ўраджай. Недацэніваць гэтага ня можна.

З цэлым націскам трэба падчыркнуць, што земляроб перш чым браць пазычку на выкормліваньне, павінен усё добра аблічыць. Хто аднак мае шмат свае бульбы і ня вельмі старую, зусім здаровую жывёлу, той на выкормліваньні павінен зрабіць цалком добры інтэрас. Рызыка-ж пры гэтым вельмі малое, блізу ніякае.

*Kutok dla haspadyniaŭ*

# Vitaminy i avitaminoza

U kormie ŭsiakaj žyvioły, a tym bolš u kormie čałavieka, akramia sučastak azotu, fosfaru, potašu j vapny, jakija łohka vyłavić znanymi chemičnymi sposabami, pavinny jšče znachodzicca sučastki zvanyja *vitaminami*, jakich vyłavić nia možna, a značeńnie jakich jość tak-ža ahramadnaje. Davoli zaznačyć, što niastača ŭ pašy vitaminaŭ byvaje pryčynaj paraližu nervaŭ i vielmi vialikaj pieramieny hetak zvanych orhanaŭ unutranaj sekrecyi.*) Ale nie zabiahajma napierad.

Na kolki vitaminy jość važnaj składovaj častkaj žyviolinaha j ludzkaha arhanizmu, na hetulki daśledavańnie istoty j značeńnia hetych vitaminaŭ tolki pačałosia. Dahetul ustanoŭleny try hatunki vitaminaŭ: vitamin *A*, vitamin *B*, i vitamin *C*, Amerykanskija vučonyja pracujuć nad adkryćciom vitamina *D*. Možna dumać, što j hety vitamin nie apošni. Ale my tut zatrymajemsia chvilinku nad tymi vitaminami, jakija ŭžo bolš-mienš viedamyja, znača *A*, *B* i *C*.

Vitaminin *A* padhaniaje rost. Z niedastatku hetaha vitaminu vystupaje razmiakčeńnie kaści; na ciapło vielmi adporny; znachodzicca ŭ maśle, u rybim tranie i ŭ jaječnym žaŭtku; raspuskajecca ŭ kłustaści.

Vitamin *B* tak-ža padhaniaje rost Pry niastačy hetaha vitaminu nastupaje viedamaja ŭ chatnich ptušak chvaroba beri-beri; hinie jon pry ciaplini vyšej 100 C, znachodzicca ŭ kvaśnicach, u ryžovych votrubach i zbažovych rastkoch; raspuskajecca ŭ vadzie i ŭ alkaholi.

Vitamin *C* vielmi čutki na vysokuju temperaturu; znachodzicca ŭ cytrynovym i ŭ pamarančavym soku.

Pavodle dahetulašniaha stanu viedy choć kožnaja žyviela vymahaje vitaminaŭ u svajoj pašy, to adnak heta patreba ŭ kožnaj žyvioły nia roŭnaja. Asabliva čutkija na niastaču vitaminaŭ u pašy byvajuć chatnija ptuški, jak kury j inš. Druhaja asablivaść samych vitaminaŭ u tym, što choć jany znachodziacca napr. u ŭsiakim ziarniaci zboža, to adnak nia ŭ kožnym hatunku adnolkava raźmieščany. Padčas kali napr. u ryžu vitaminy znachodziacca blizu vyklučna ŭ łusce, dyk ŭ jačmieniu jość davoli mnoha vitaminaŭ i ŭ samym ziarniaci. Padobna šmat jość vitaminaŭ i ŭ ziarniaci žyta. Ad sposabu raźmiaščeńnia vitaminaŭ u ziarniaci zaleža sposab ichniaha pryhatavańnia da spažyćcia. I tak, padčas kali ŭ ryžovych krupach niama zusim vitaminaŭ, i kury kormlenyja — jany astalisia ŭ łusce! — hetkimi krupami chvarejuć na avitaminozu, dyk tyja-ž kury kormlenyja krupami jačmiennymi ŭžo na hetu chvarobu nie zachvarejuć. Z hetaje samaje pryčyny chleb razovy maje ŭ sabie šmat bolš vitaminaŭ i tamu jon šmat „zdaraviejšy," čym chleb biely, u jakim razam z atrubami addzielena j vialikaja častka vitaminaŭ. Dalej cikava j toje, što kali ŭziać kolkaść napr. vitaminu *B* ŭ atruboch ryžovych za adzinku, dyk pšaničnyja atruby tady majuć kala 10 prac., jačmiennyja—kala 20 prac., aŭsianyja — kala 10 prac., sušanaja kapusta — kala 10 prac.

Jakoje praktyčnaje značeńnie majuć usie hetyja paznańni? Pieršaje j najvažniejšaje heta toje, što kali chatniuju ptušku karmić pašaj biez vitaminaŭ, napr. ryžovymi krupami, dyk takaja ptuška spadzie z noh. Inšych chvarobnych prajavaŭ unutry arhanizmu tut užo i nie ŭspaminajem. Davoli adnak takuju chvoruju na avitaminozu (biazvitaminnaść) ptušku pačać karmić niamołatym poŭnavartasnym zbožam, jak pa dvuch-troch tydniach chvaroba prachodzić. Važna pry hetym i toje, što na avitaminozu najčaściej pačynaje chvareć chatniaja ptuška, hadavanaja ŭ nienaturalnych varunkach, napr. zamknionaja ŭ muravanym (betonavym) pamiaščeńni. Z hetaha vypłyvaje praktyčnaja rada druhaja: nia trymać kurej zamknionymi pa całych dnioch i choć na chvilinu vypuskać ich na volu. Ad hetaha zaleža nia tolki ichniaje zdaroŭje, ale taja-ža niasučaść i płodnaść.

Dr. C. K.

*) sekrecyja=vydzialeńnie.



# Што чуваць на сьвеце

## Нямеччына — Англія — — Францыя

Нямецкага канцлера Гітлера адведаў англіцкі палітык Гэліфакс. Аб чым гэтыя два палітыкі гаварылі, — гэтага дакладна тымчасам нюведама. З таго аднак, што зараз пасьля павароту Гэліфакса англіцкі ўрад запрасіў у Лёндан на нараду францускага прэм'ера Шотана і міністра загран. спраў Дэльбо, палітычныя кругі дагадваюцца, што Гітлер мусіў рубам паставіць справу вольнай рукі Нямеччыны ў адносінах яе да Чэхаславаччыны й Аўстрыі і прызнаньня тымчасам у прынцыпе толькі права Нямеччыны да калёніяў. За гэтыя ўступкі Нямеччына на нейкі час забавязалася-б не дамагацца звароту ей калёній адабраных па сусьветнай вайне. Нарада гэта мае адбыцца 29 ці 30 лістапада. Агульна думаюць аднак, што Францыя й Англія на гэтыя ўступкі аднак ня пойдуць, бо ў праціўным выпадку яны з Нямеччынай наагул ня справіліся-б.

## Монархістычны загавор у Францыі.

Француская паліцыя тыдзень таму назад трапіла на сьляды шырока разбудаванага загавору проціў сучаснага дэмократычнага ладу ў Францыі. Загаворшчыкі пераходна меліся завесьці лад фашыстаўскі, а пасьля толькі прыняць строй монархістычны. Па цэлай Францыі цяпер выкрываюць вялікія склады ўсялякай зброі. У загавор замяшана было шмат людзей.

## На Далёкім Усходзе.

Па чатырохмесячных баёх у Шанхаі кітайцы адступілі ў кірунку сваё новае сталіцы Нанкіна, каторую таксама эвакуюць, прыгатаўляючыся там да вялікай бітвы. Апошнія (26.XI) тэлеграмы паведамляюць, што па двутыднёвым пананаваньні японцаў у Шанхаі набліжаюцца дні голаду; запасы прадуктаў аблічаны толькі на тры дні. Абаронай Нанкіна кіруе сам маршал Чан-Кай-Шэк. Вайсковыя кругі аднак ня вельмі вераць у тое, каб Нанкін утрымаўся. Затое ўсе згодны ў тым, што тактыка кітайскага ваеннага камандаваньня дагэтуль вельмі аберагае свае сілы. А пакуль сілы не разьбіты, датуль надзея на перамогу зусім апраўданая. — Японцы, акрамя акцыі ваеннай, разьвілі сільную акцыю прапагандную. Уключыўшы анагдай Італію ў „процібальшавіцкі" дагавор, японцы выслалі 24 г. м. у Італію „надзвычайнага" пасла, віцэадмірала Ямамонто, які мае прадстаўляць „сто тысячную масу" японскіх рымска-каталікоў і ня толькі ў Ватыкане, але так-жа ў іншых сталіцах Эўропы весьці прапаганду на карысьць Японіі.—Характэрна пры ўсім гэтым, што Японцы дагэтуль не аб'явілі вайны Кітаю і ўвесь час заяўляюць, што яны ваююць ня проціў кітайцаў, а толькі проціў бальшавіцкіх уплываў у Кітаю: хітрэй мусіць і выдумаць трудна.

## Італія проціў Францыі.

Адносіны паміж Італіяй і Францыяй былі дагэтуль благія а цяпер яшчэ пагаршаюцца. Усе кажуць, што ў раскрытым фашыстаўскім загаворы ў Францыі мачала пальцы Італія, якая акрамя таго снуе пляны і на францускі востраў Корсыку. Усё гэта, зразумела, вельмі варожа настрайвае Францыю проціў такой неспакойнай суседкі, як Італія.



# Гаспадарская хроніка.

**Развод.** Колькі год таму назад пад націскам урадовых колаў наступіла злучэньне польскіх арганізацый фахова-земляробскіх і земляробска-коопэратыўных, якія сваею чыннасьцю абыймаюць і вёскі беларускія. Злучэньне гэта адбылося пад страхам затрыманьня ўрадавых дапамогаў, якія да таго часу ўспомненыя фаховыя арганізацыі атрымоўвалі, і без каторых ніяк існаваць не маглі. І злучыліся: асадніцкія „kółki" з абшарніцкім „T-wem Rolniczym" — у С.Т.О. і К. R. а „Związek Spółdzielni Rolniczych" z „Związkiem Polskich Spółdzielni" — у „Związek Spółdzielni Rolniczych i Zarobkowo Gospodarczych R. P." Ужо з самага пачатку відаціа было, што з гэтага злучэньня ня можна нічога путнага спадзявацца. Так і сталася, бо кожная старана, відаць, думала перад усім аб сабе. З часам выявілася, што пад супольнай страхой „спалучаных" арганізацый няма згоды: у С.Т.О. і К. R. (Centr. T-wo Organizacyj i Kółek Rolniczych) перамаглі элементы дробна-гаспадарскія (асаднікі), затое ў саюзе коопэратываў узялі верх старонькі пазнанскай „Unji." У дадатку ў сям'і самых асадніцкіх „кулкаў" таксама быццам няма згоды. Чым гэта ўсё канчыцца—пакажа будучыня, нават вельмі недалёкая. — Сягоньня-ж ясна толькі тое, што няма ладу там, дзе хоць і ёсьць грошы, але дзе людзі працуюць не з праканаваньня, а толькі з прымусу.

**Кепска быць слабым — ня добра і сільным.** Украінская коопэрацыя ў Галіччыне, паміма ўсіх перашкодаў, добра разьвіваецца. Колiць гэта вочы „Kurjera Polski," які сьцьвярджае, што калі ў 1921 г. украінцы ў Галіччыне мелі 520 коопэратываў, дык у 1935 г. мелі іх ужо 3.211, з 535 тыс. сяброў і абаротам блізу 86 мільёнаў зл. У гэтым-жа часе і на гэтым самым абшары палякі мелі 1.086 коопэратываў, з 340 тыс. сяброў і каля 57 мільёнамі абароту. Гэта аўтора зацемкі так пужае, што ён проста кліча ратунку... хто з гэтым ратункам мае туды йсьці, выразна па іменьню ня кажыцца. Варта аднак увагі зацемка украінскай прэсы, што аднаму з паветавых аддзелаў украінскага „Цэнтрасаюзу" (у Перамышлі) мясцовыя польскія ўлады забаранілі рабіць ужо згон сьвіней, дзеля скупліваньня іх для сваіх коопэратыўных бойняў. Думаем, што паясьненьні да гэтага лішнія.

**Азотныя штучныя гнаі не патанеюць.** Розныя гаспадарскія арганізацыі дамагаліся, каб дзяржаўная фабрыка штучных азотных гнаёў у Мосьціцах і Хожаве апусьціла цэны на свае прадукты. Фабрыка гэта анагдай адказала аднак, што зьніжкі ніякай ня будзе.

Przesyłka opłacona ryczałtem.



# У нас і ў суседзяў

## Беларускае жыцьцё.

— Не дазволілі. Прыкладам леташняга году Віленскія беларусы меліся й сёлета супольна адсьвяткаваць Дзень Беларускай Культуры на ўрачыстай Акадэміі, якую арганізавалі на дзень 28 лістапада сёл. Акадэмія прадбачыла адпаведны да хвіліны ўрачысты рэфэрат і аддзел канцэртны, у якім меліся сьпявацца беларускія народныя песьні. На паведамленьне аб гэтай акадэміі з дня 17 г. м., 24 лістапада прыйшоў ад адміністрацыйных уладаў адказ адмоўны. Тады арганізатары ўрачыстасьці прасілі ўлады дазволу на сам толькі канцэрт беларускай песьні, аднак і на гэта быў адказ адмоўны. Прычынай забароны ў абодвух выпадках былі „względy biezpieczeństwa". — Такім чынам Віленскія адміністрацыйныя ўлады забаранілі сёлета беларусам урачыста сьвяткаваць Дзень Беларускай Культуры.

— І моладзі забаранілі. На дзень 21 г. м. Віленская беларуская моладзь праектавала сход дзеля абгаварэньня справы арганізацыі культурна-прасьветнага саюзу беларускай моладзі. На адпаведнае паведамленьне ў гэтай справе прыйшоў ад уладаў адміністрацыйных так-жа адказ адмоўны; г. зн што беларускай моладзі Віленскія адміністрацыйныя ўлады сёлета не пазволілі ня толькі заснаваць свайго саюзу, але нават аб патрэбе (ці непатрэбе) такога саюзу супольна пагаварыць.

— На што здольна Віленскае Радіо. 16 г. месяца з Варшавы на ўсе радіостанцыі ў Польшчы, а гадз. 19 мін. 30 меўся высылацца канцэрт беларускіх песьняў (нешта каля 7 песьняў), якія меўся сьпяваць ведамы на ўвесь сьвет сьпявак М. Забэйда. Дакладная праграма гэтага канцэрту была пададзена ў афіцыяльным органе Польскага Радіа — „Antena". Беларусы і многалічныя паклоньнікі беларускай песьні, хто толькі мелі якісьці доступ да радіовых апаратаў на гэту гадзіну, усе там сабраліся. І што-ж сталася? Віленская радіостанцыя па трэцяй ужо беларускай песьні, бяз лішняй аглядкі на якіясь там забавязаньні хоцьбы да агульнавызначанай наперад праграмы, узяла ды выключыла сваю антэну з перадачы агульнай, і з сваей радіостанцыі, чамусьці вельмі падэнэрваваным голасам, абвесьціла, што ўжо(!) надала аўдыцыю „песьняў палескіх" ды што прыступае да ігры з грамафонных плітак: „wesele góralskie", „umarł Maciek" і інш. Уся гэта „аўдыцыя" з грамафонных плітак трывала роўна да тае хвіліны, пакуль у Варшаве сьпяваў М. Забэйда, пасьля чаго й Вільня ўключылася ў праграму агульна-польскую. Саставіўшы ўсё гэта побач сябе кожны ясна зразумее, што гэткае самавыключэньне Віленскай радіостанцыі напэўна ня выплывала з пачуцьця... звычайнай пашаны ейных кіраўнікоў хоць-бы да забавязаньняў сваіх собскіх цэнтральных уладаў. А можа гэтыя разьбежнасьці толькі для людзкога вока? Хто гэта ведае?

— „Chryścijanskaja Dumka" тыднёвікам? У апошнім нумары (№ 20) „Chryśc. Dumki" знаходзімо вестку аб тым, што часапіс гэты робіць стараньні, каб ад новага 1938 г. стацца тыднёвікам.

— А Суд не зацьвердзіў. Як мы ўжо падавалі, Віленскія адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі дня 13.X.37 г. Камунікат № 7 Рады БНА — Беларускага Народнага Аб'еднаньня з дня ?.X.37 г. Справу гэтай канфіскаты разглядаў на няяўным паседжаньні Віленскі Акружны Суд дня 10 г. м. і канфіскаты гэтай не зацьвердзіў. У матывах свае пастановы Суд між іншым зазначыў: „Суд ня бачыць у зьмесьце ўспомненага друку азнакаў праступства з арт. 93, 154 і 170 К. К. Асабліва ў жаданьні свабодных 5-ці прыметных выбараў і рэалізацыі правоў Беларусаў, прадбачаных у Конституцыі няма ніякага закліканьня да адабраньня ад Польшчы незалежнага быту або адарваньня часьці ягонага абшару ці якога іншага праступства". Рада Б. Н. А. (Вільня, вул. Завальная 1—2), атрымаўшы гэткую пастанову Суду, выдала Камунікат № 7 новым выданьнем і рассылае яго кожнаму, хто гэтай справай цікавіцца, дарма. Да Камунікату далучана ўспомненая пастанова Суду ў арыгінае.

— Аб назовы вуліц Вільні. У Магістрат м. Вільні прыйшла просьба Беларускага Навуковага Т-ва, каб пры перайменаваньні вуліц у будучыні былі ўзяты пад увагу імёны такіх асоб, якія зьвязаны ці то з самай Вільняй, ці цэлым краем, ці з беларускай культурай наагул; напр. Леў Сапега, Др. Фр. Скарына, браты Мамонічы і г. д. і імёнамі гэтых людзей назвалі вуліцы м. Вільні.

— Беларускія Нац.-Соцыялісты перанесьліся ў Ліду. Пасьля ведамай забароны працаваць беларускім нацыянал-соцыялістам у прыгранічнай паласе, перанесьлі яны свой цэнтр з Вільні ў Ліду. Там так жа выйшаў і чарговы нумар іхняга органу „Новы Шлях" (№ 3(24).

## З нашых сёлаў і мястэчак.

— Бібліятэкі. Па ўсім краю цяпер разглядаюцца ў паветавых асьветных камісіях разглядаецца справа асьветы пазашкольнай. Гэтак напр. камісія такая ў Браслаўі пастанавіла сарганізаваць аж 103 вясковыя бібліятэчкі. Тое самае і ў іншых мясцох. Пажадана, каб жыхары з мясцоў дамагаліся ў гэтых бібліятэках і кніжак беларускіх.

## У Літоўцаў.

— Стрымалі „Vilniaus Rytojus". Віленскія адміністрацыйныя ўлады ўстрымалі („завесілі") літоўскую газэту „Vilniaus Rytojus", якая выходзіла двойчы ў тыдзень і на выданьне новай газэты тымчасам не пазволілі.

— Замкнулі Літоўскае Дабрадзейнае Т-ва. У другой палове г. м-ца Віленскія адміністрацыйныя ўлады праводзілі дакладную рэвізію Літоўскага Дабрадзейнага Т-ва і інстытуцыяў, якія гэта Т-ва вядзе. Па правядзеньні рэвізіі само Т-ва было зачынена і настаўлены дагляд над маемасьцю Т-ва. Уладам Т-ва закідваецца, што пашыралі сваю дзейнасьць на справы неабнятыя статутам Т-ва.

## У Палякоў.

— Прыяцелі судзяцца. Прыяцелі з колішняга ББ, як толькі яно развалілася, пачалі між сабой грызьціся на добрае. Асабліва дапякаюць сабе ўзаемна абшарнікі й іхня прыслужнікі з аднаго боку і г. зв. „направа" — з другога. Даходзіць і да суду. Гэткім цікавым судом ёсьць пачаты і прарваны суд Сташынскага процiў Ул. Студніцкага На грунце гэтага суду сварацца між сабой дальшыя б. стаўпы санацыі, паміж каторымі таксама прадбачыцца судовая расправа.

— У бок дэмакрацыі? У палове гэтага м-ца дзеячы П.П.С. хадзілі на аўдыенцыю да Прэзыдэнта Польшчы, якому злажылі пісьменны мэморыял з рознымі дамаганьнямі. — Аб чым там гаварылася — мала ведама, бо газэта, якая аб гэтым пісала, была сканфіскавана. — Скора пасьля гэтага быў зьменены Куратар Вучыцельскага Саюзу (ZNP); асоба новага Куратара ня дражніць так вучыцялёў, як куратар папярэдні.

— Палітычны працэс у Любліне пачаўся 15 г. м. процiў 39 асоб, якіх абвінавачваюць у дзейнасьці камуністычнай.

## У Украінцаў.

— Наддняпранская эміграцыя мела анагдай свой зьезд, на якім прыняла цэлы рад рэзалюцый, у каторых ярка малюе цяжкае палажэньне украінскае справы ў Саветах і высказвае моцную „веру, што ў недалёкай збройнай барацьбе з Маскоўшчынай усе народы ад Каўказу й Туркестану да далёкай Поўначы пойдуць рука аб руку,... каб пабіць адвечнага ката вольных народаў Усходняй Эўропы — імпэрыялістычную Маскоўшчыну".

## З ВІЛЬНІ.

— Процiў жыдоў. Пасьля летняй перадышкі ў Вільні ўзноў пачынаюцца процiўжыдоўскія выступленьні польскае эндэцкае моладзі. Час-ад-часу гэта моладзь перад жыдоўскімі крамамі свавіць сваю варту („пікеты"), якая не дапускае кліентаў у гэтыя крамы, накіроўвуючы іх у крамы „хрысьціянскія". Часта-густа здараюцца ўзноў выпадкі, што нязлоўленыя дагэтуль асобы падкідаюць у жыдоўскія крамы бутэлькі з сьмярдзючым газам. — 25 г. м. на Віленскім Унівэрсытэце зьявілася рэктарскае распараджэньне, якое загадвае студэнтам-жыдом усюды у унівэрсытэце займаць месца па левай старане, а няжыдом — па правай. Трэба зазначыць што за гэткае распараджэньне йшло змаганьне больш году. Адзін рэктар Унівэрсытэту (праф. Якавіцкі), не згаджаючыся на такое разьмяшчэньне студэнтаў, нават зрокся свайго становішча, пасьля чаго цэлы год урадаваў праф. Станевіч. Новавыбраны рэктар кс. А. Вуйціцкі наляганьняў эндэцкіх ня вытрымаў.

## Цэны ў Вільні

**Збожжа** *25.XI.37 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . . | 22.65—23.75 |
| Пшаніца . . . . . | 28.50—30.00 |
| Ячмень . . . . . . . | 19.00—20.25 |
| Авёс . . . . . . . . | 20.00—23.00 |
| Грачыха . . . . . . | 18.00—18.00 |
| Мука пшанічная . . | 25.00—44.50 |
| мука житняя . . . | 25.00—37.00 |
| Вотрубы пшанічныя | 15.00—15.50 |
| Вотрубы житнія . . | 14.25—14.75 |
| Лубін сіні . . . . . | 13.25—13.75 |
| Семя лянное b. 90% | 45.00—45.50 |
| Лён трапаны, Валож. | 1385—1435 |
| Лён трапаны, Гародзей | |
| Лён трапаны Трабы . | 1385—1435 |
| Лён трапаны, Мёры | 1300—1340 |
| Лён часаны Гародзей . | 1940—1980 |
| Кудзеля Гародзейская . | 1420—1460 |

„Самапомач" выходзіць 10 і 25 кожнага месяца.

ПАДПІСКА на „Самапомач": да канца году — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.

Рэдактар інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС"